Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ

№3 (23), сьнежань, 2003 г.

# МЫ ПАМЯТАЕМ

**У міжнародны дзень правоў чалавека, 10 снежня, у Віцебску адбыўся "Ланцуг неабыякавых людзей".**

Каля трох дзесяткаў віцяблянаў стаялі ўздоўж вуліцы Леніна, насупраць "сіняга" дому, з запаленымі свечкамі і з партрэтамі зніклых – журналіста Дзмітрый Завадскага, бізнэсмэна Анатоля Красоўскага, экс-міністра МУС Юрыя Захаранкі, былога намесніка старшыні ВС Віктара Ганчара. Дасюль няма ніякіх звестак пра лёс гэтых людзей, і таму іх ужо звыкла называюць "палітычнымі ахвярамі". У канцы лістапада суд Фрунзенскага раёна Мінска прызнаў Д. Завадскага памерлым, але цела яго так і не было знойдзена.

Засведчыць памяць пра зніклых прыйшлі сябры віцебскіх арганізацый Партыі БНФ, АГП, БСДП(НГ), партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Маладога Фронту. Да "ланцуга" таксама далучыліся некалькі гараджан, іншыя спыняліся і цікавіліся, што тут адбываецца.

Акцыя доўжылася прыкладна гадзіну. Супрацоўнікі міліцыі, зразумеўшы сэнс мерапраемства, больш не ўмешваліся ў ход падзей і сачылі за парадкам, знаходзячыся непадалёк. Наадварот, можна адзначыць, што гэта быў адзін з досыць з рэдкіх прыкладаў, калі віцебская апазіцыя праявіла падобную салідарнасць і аднамыснасць.

*Яна ІЛЬІНА.*




# ИЛЛЮЗИЯ



Результаты выборов в российскую Госдуму убедительно доказали, насколько далеко еще Россия находится на пути по созданию истинного демократического государства! Похоже, что те чахлые ростки демократии и свободы, которым суждено было появиться в многочисленных мучениях и страданиях в России, вскоре будут грубо затоптаны. Ну а что касается Беларуси, то итоги выборов в российскую Думу по большей части носят негативный характер для Беларуси, так как в парламент прошли ультра-националисты ДЛПР и «Родина», которые изначально рассмат-ривали и продолжают рас-сматривать Беларусь не как суверенное и независимое государство, а как одну из российских губерний.

Таким образом, в настоящее время сложилась небезопасная ситуация, которая несет угрозу независимости Беларуси. В последнее время все больше и больше белорусов начинают с опаской смотреть в сторону России. Ведь Россия огромная и непредсказуемая страна, на территории которой идут боевые действия, постоянно происходят теракты, гибнут люди. Тем не менее, Лукашенко упорно и, не взирая ни на что, вгоняет белорусов в этот так званый союз с Россией. С одной стороны, нынешний режим создают видимость обеспокоенности за экономическую независимость Беларуси, но на самом деле все это – не что иное как иллюзия.

Переход белорусской экономики в руки полукриминального капитала – вопрос уже давно решенный, и его реализация – дело ближайшего времени. После чего Беларусь исчезнет с географической карты как суверенное независимое государство со всеми вытекающими неблаго-приятными последствиями для белорусского народа, которых, к сожалению, будет намного больше, чем дешевые газ и нефть, а также братская дружба славянских народов.

В перспективе существование и процветание белорусского народа в рамках Российской империи не может быть позитивным никогда, об этом убедительно свидетельствует история всех колониальных народов, но Беларусь по-прежнему идёт своим, «особым», уму не понятным путем. Вряд ли сегодня можно найти государство в мире, которое бы добровольно отказалось от своей независимости, валюты, и пожелало бы стать территориальной частью другого государства. Не говоря уже о том, что реализация так званого союзного договора с юридической точки зрения является грубым нарушением Конституции Республики Беларусь, в частности, ее положений, касающихся суверенитета и независимости страны.

Поэтому вполне справедливыми сегодня звучат заявления все большего и большего числа белорусов, которые говорят решительное «нет» так званому союзу с Россией. Беларусь – чисто европейское государство и ее место – в цивилизованной и процветающей Европе, иного пути у нее нет.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Валерий Павлоцкий.*

**Магістрат**

**Заснавальнік:**
Віцебская рада Партыі БНФ
**Выдавец:**
Цэнтар моладзевых ініцыятываў «Контур»
**Рэдактар:**
К. Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн і вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскае аддзяленьне Фонду імя Льва Сапегі
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Рэдакцыя знаёміцца з карэспандэнцыяй, не ўступаючы ў перапіску.

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.
Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня.

# ПРА ЛЁС БЕЛАРУСКАЕ ВАЛЮТЫ

**30 лістапада ў Менску адбылася міжнародная канфэрэнцыя «Беларуская нацыянальная валюта – праблемы й пэрспэктывы», якая сабрала вядучых эканамістаў краіны – як прадстаўнікоў незалежных дасьледніцкіх цэнтраў, гэтак і дзяржаўных службоўцаў.**

Ва ўступным слове да ўдзельнікаў старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка зазначыў: "Вострая актуальнасьць тэмы відаць ужо па тым, што заля поўная. Не магу не нагадаць, што Партыя БНФ яшчэ ў канцы 80-х гадоў першая загаварыла пра неабходнасьць уводзіць беларускую нацыянальную валюту, і мала хто тады ўспрыняў гэтую ідэю як рэальную. Але сёньня беларуская валюта – рэальнасьць, і нават можна рабіць пэўнае падсумаваньне ейнага шляху. Разам з тым перад беларускімі грашыма стаяць новыя выклікі ў выглядзе прапановаў валютных саюзаў. Эканоміка – навука гуманітарная: яна вывучае чалавека ў ягоным безупынным выбары ва ўмовах спакусаў і спадзеваў, пагрозаў і магчымасьцяў. Пры ацэнцы прапановаў валютных саюзаў трэба ўлічваць ня толькі сухія эканамічныя фактары, але й іхны кантэкст: чалавечыя й нацыянальныя каштоўнасьці, а нават цывілізацыйны выбар. Таму гаворка сёньняшняя будзе эмацыйная. Але я заклікаю сабраных гаварыць, як вучылі рымляне: *sine ira et studio*, "бяз гневу й прадузятасьці", але з думкаю пра дабро Беларусі й яе народу".

Вёў дыскусію вядомы эканаміст Валеры Дашкевіч, які ў сваім дакладзе акцэнтаваў эфэкты магчымай валютнай інтэграцыі для прадпрыемстваў і хатніх гаспадарак Беларусі. Нямецкія ўдзельнікі праф. Эльке Тыль і Ода фон Брайтэнштайн спыніліся на пытаньнях пераходу на эўра Нямеччыны й (меркаванага) Польшчы. З дакладамі пра грашова-крэдытныя тэндэнцыі ў нашай краіне й пра пэрспэктывы валютнай інтэграцыі выступілі кіраўнікі дэпартамэнтаў Нацыянальнага Банку Аляксандар Лабанаў і Юры Ўласкін, экс-старшыня Нацыянальнага Банку праф. Станіслаў Багданкевіч («Ці ёсьць альтэрнатывы? Нацыянальныя інтарэсы»). Вялікую палеміку выклікалі даклады Гарэгіна Вардэваняна (Інстытут эканамічных дасьледаваньняў Міністэрства эканомікі) і Ўладзіміра Усоскага (Цэнтар эканамічных і сацыяльных дасьледаваньняў пры ЭГУ). Яны падалі сыстэмны пералік пагрозаў для гаспадаркі й дзяржаўнасьці Беларусі, якія прынес бы пераход на валюту ўсходняга суседа.

Пра негатоўнасьць беларускіх банкаў і страхавых кампаніяў гаварыў праф. Аляксандар Афанасенка (Інстытут сучасных ведаў). Дыскусію завершыў праф. Барыс Жаліба (Менскі інстытут кіраваньня) тэмаю «Палітычныя аспэкты ўвядзеньня расейскага рубля ў якасьці нацыянальнай валюты».

Як сказаў пасьля заканчэньня канфэрэнцыі Вінцук Вячорка, "высьветлілася адна добрая навіна: усе вядучыя беларускія эканамісты як зь дзяржаўных, гэтак і недзяржаўных структураў выступаюць за глыбокія рэформы, неабходныя для ўратаваньня нашай эканомікі. Гэтаксама выявілася, што паміж нашымі прафэсіяналамі праходзіць водападзел. Некаторыя зь іх – меншыня – лічаць, што пераход на расейскі рубель мог бы паспрыяць рэформе. Пры гэтым яны, праўда, зазначаюць, што такога пераходу ў бліжэйшы час ня будзе. Але большыня прафэсіяналаў, незалежна ад свайго "дзяржаўнага" ці "недзяржаўнага" статусу, — за ўмацаваньне беларускае нацыянальнае валюты як асноўнага інструмэнту ажыцьцяўленьня рэформаў і як неад'емнага атрыбуту рэальнага сувэрэнітэту Беларусі. Зьбережам і ўмацуем беларускую грашовую адзінку – тады прыступім да наступнае дыскусіі: пра далучэньне да зоны эўра. Паўтару за ўдзельнікамі дыскусіі: абсалютна некарэктна параўноўваць пераход на валюту *чужой* дзяржавы (расейскі рубель) і ўдзел у стварэньні зоны *агульнай* валюты (эўра)".

Канфэрэнцыя, якая адбылася дзякуючы Цэнтру Супольнасьць і фонду імя Конрада Адэнаўэра, стала лягічным працягам эканамічных круглых сталоў, якія ў 2001-2003 гг. штомесяц адбываліся ў Сядзібе БНФ.

*Прэс-група Партыі БНФ*






# ЗАЯВА

ЎПРАВЫ СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

У Іраку арыштаваны Садам Гусэйн. Гэта — сапраўды радасная навіна для ўсіх, каму дарагія ідэалы свабоды й правы чалавека. Партыя БНФ віншуе з гэтай знакавай падзеяй народ Іраку, народы Злучаных Штатаў Амэрыкі, Вялікабрытаніі, усіх краінаў-удзельніц дэмакратычнай кааліцыі. Арышт аднаго з найбольш адыёзных дыктатараў сучаснага сьвету паказвае іншым дыктатарам, што канец іхнага панаваньня таксама недалёкі ды што іх, як неўзабаве Садама Гусэйна, чакае справядлівы суд.

15 сьнежня 2003 г.

# БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Я ВЫВУЧАЎ У ВАШЫНГТОНЕ

**Амбасадар ЗША ў Менску Джордж Крол наведаў студыю Радыё Свабода.**

-Добры дзень, спадар амбасадар! Вітаем вас! Мы былі ўражаныя ў аэрапорце, калі вы віталі журналістаў па-беларуску. Калі й дзе вы вучылі беларускую мову?

(К) Я вывучаў беларускую мову ў Вашынгтоне. Мая выкладчыца паходзіць з Магілёва. Я хацеў бы працягваць вывучаць беларускую мову.

-Спадар амбасадар, вы вярнуліся ў Менск амаль праз 10 гадоў. Вашыя першыя ўражаньні?

(К) Я павінен сказаць, што вельмі прыемна вярнуцца ў Беларусь і Менск пасьля васьмі гадоў. Мне спатрэбіцца час, каб пагаварыць зь людзьмі, паезьдзіць па краіне, каб болей зразумець, што людзі думаюць і якія зьмены адбыліся. Візуальна падаецца, што шмат зьменаў у Менску. Ён застаецца прыгожым горадам, вядзецца шмат будаўніцтва, аздабленьня, ён робіцца больш яркім. І значна больш устаноў, кшталту рэстарацыяў і крамаў, пакідаюць вельмі добрае ўражаньне пра тутэйшае разьвіцьцё.



Сказаўшы гэта, хачу дадаць, што калі вы паглядзіце на разьвіцьцё ў суседніх краінах, такіх як Літва, Польшча, магчыма, зьмены тут больш павольныя, чым у суседзяў.

-Беларускае Міністэрства замежных справаў вітала ваш прыезд, і многія беларускія афіцыйныя прадстаўнікі, уключна з А. Лукашэнкам, казалі пра свае спадзяваньні на паляпшэньне стасункаў са ЗША. Што павінны зрабіць абодва бакі, каб дасягнуць такога паляпшэньня?

(К) З боку Злучаных Штатаў мы зрабілі вядомым для беларускіх уладаў, што базіс для паляпшэньня стасункаў са Злучанымі Штатамі палягае на ўмовах і прынцыпах, якія можна знайсьці ў рэкамэндацыях АБСЭ наконт зьменаў у Беларусі ў выбарчым заканадаўстве, стаўленьні да грамадзянскай супольнасьці, недзяржаўных арганізацыяў, прэсы, і сур'ёзным расьсьледаваньні зьнікненьняў. Гэтыя чатыры ўмовы ёсьць фундамэнтальнымі ў нашай палітыцы, якая скіраваная на паляпшэньне стасункаў зь Беларусьсю. У Злучаных Штатах мы, натуральна, хацелі б бачыць пэўныя зрухі ў гэтых пытаньнях. Таму на падставе канкрэтных рашэньняў і дзеяньняў зь беларускага боку амэрыканскі бок, амэрыканскі ўрад гатовыя нешта рабіць для больш шчыльнага супрацоўніцтва зь Беларусьсю ў шырокай сфэры дзейнасьці.

- Вы закранулі тэму зьніклых асобаў. Якое вашае меркаваньне пра апошні візыт у Беларусь сп. Хр. Пургурыдэса з Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы?

(К) Я думаю, што гэта добры знак — тое, што ён прыехаў і быў прыняты беларускімі ўладамі. Але застаецца пабачыць, якімі будуць вынікі гэтага візыту, таму што калі ён пакажа, што ёсьць сур'ёзнае расьсьледаваньне гэтых зьнікненьняў, гэта будзе добрым знакам. І я мяркую, што гэта дамапожа адказаць на тую занепакоенасьць, якая паўстала ў маёй краіне, у Злучаных Штатах, таксама як і ў іншых краінах, наконт таго, што менавіта здарылася з гэтымі людзьмі. Гэта, зразумела, вельмі складаная і балючая сытуацыя, але да яе трэба ставіцца сур'ёзна з боку беларускіх уладаў. Як я сказаў, я спадзяюся, гэта прывядзе да большых зрухаў, каб было тлумачэньне для міжнароднай супольнасьці наконт таго, што здарылася і куды рухаецца гэтае расьсьледаваньне.

-Вы раней працавалі дырэктарам расейскага офісу Дзярждэпартамэнту ў Вашынгтоне, а таксама ў амбасадзе ЗША ў Маскве. Некаторыя беларускія палітыкі ўпэўненыя, што Расея імкнецца інкарпаваць Беларусь, і тут ёсьць пэўныя страхі, што паляпшэньне расейска-амэрыканскіх адносінаў больш важнае для Вашынгтону, чым беларуская незалежнасьць. Не маглі б Вы пракамэнтаваць гэта?

(К) Я магу заявіць даволі катэгарычна, што пазыцыя Злучаных Штатаў наконт незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі ёсьць яснай і доўгатэрміновай — вядома, увесь час ад 1992 году, калі я прыбыў у Беларусь упершыню, каб усталяваць дыпляматычныя адносіны з новай незалежнай Рэспублікай Беларусь. Яна палягае ў тым, што Злучаныя Штаты як фундамэнтальны элемэнт сваёй палітыкі падтрымліваюць сувэрэнітэт і незалежнасьць Беларусі. І гэта, вядома, будзе захоўвацца ў любых нашых дачыненьнях зь любымі краінамі, якім трэба мець справы зь Беларусьсю. Што ж да дачыненьняў ЗША і Расеі адносна Беларусі, дык я б мусіў сказаць, што гэта ня той элемэнт, які Злучаныя Штаты абмяркоўваюць з Расеяй як элемэнт палітыкі.

Я маю на ўвазе, што існуе абмеркаваньне разьвіцьця падзеяў у рэгіёне ды нашай агульнай пазыцыі падтрымкі стабільнасьці ў гэтым рэгіёне, і надзея, што суседзі Беларусі й Беларусь будуць усе ўключаныя ў агульныя працэсы інтэграцыі гэтага рэгіёну ў больш шырокую трансатлянтычную супольнасьць, якая ўлучае Расею і Беларусь разам — вядома, як частку непадзельнай і вольнай Эўропы. Гэта ёсьць фундамэнтальным прынцыпам амэрыканскай замежнай палітыкі. Мы будзем абмяркоўваць Беларусь і гэтае разьвіцьцё падзеяў з Расеяй у кантэксце інтэграцыі гэтага рэгіёну ў трансатлянтычную супольнасьць нацыяў.

-Вы маеце на ўвазе інтэграцыю Беларусі ў НАТО?

(К) Не зусім так. Вядома, калі Беларусь мае жаданьне дасягнуць сяброўства ў НАТО, дык гэта яе сувэрэннае права — рабіць гэта. Нельга сказаць, што Беларусь мусіць стаць сябром НАТО, каб стаць часткай трансатлянтычнай супольнасьці. Ёсьць шмат краінаў у Эўропе, якія не зьяўляюцца сябрамі НАТО, але ёсьць сябрамі трансатлянтычнай супольнасьці нацыяў — можна назваць Швайцарыю, Швэцыю, іншыя. Яны ёсьць паўнапраўнымі партнэрамі ў гэтых працэсах эканамічнай і палітычнай інтэграцыі. Вядома, права Беларусі — вырашаць, якую ролю яна возьме.

Зноў жа, будучыня Беларусі не знаходзіцца ў руках Вашынгтону ці Масквы, ці Брусэля. Яна знаходзіцца тут у Менску, у Беларусі, і беларускі народ мусіць мець магчымасьць вырашаць за сябе, свабодна, як сувэрэнная незалежная нацыя, хаду сваёй будучыні.

*(працяг будзе)*

# ПРА СМІ Ў БЕЛАРУСІ

**Кіраўнікі місіяў дзяржаваў Эўрапейскага Зьвязу ў Менску адзначаюць, што тэма свабоды СМІ ёсьць крыніцай занепакоенасьці, якая расьце.**

Амбасада Італіі ў Беларусі, якая цяпер рэпрэзэнтуе ў Менску ўвесь Эўразьвяз, у чацьвер распаўсюдзіла заяву, ухваленую кіраўнікамі эўрапейскіх дыпмісіяў на іх агульным сходзе. Яны нагадваюць, што за апошні час гэтая тэма агучвалася не аднойчы — у зьвязку з трохмесячным прыпыненьнем дзейнасьці вядучай незалежнай газэты "Белорусская деловая газета".

Заява адзначае, што яшчэ адной крыніцай занепакоенасьці ёсьць зьмест праекту закону аб СМІ, які ўрад Беларусі наважаны перадаць парлямэнту найбліжэйшым часам. На мінулым тыдні ў Вене, падчас сэсіі Сталай рады АБСЭ, гэтая заклапочанасьць была выказаная зноў, гэтаксама як і надзея на тое, што беларускія ўлады возьмуць яе пад увагу, арганізаваўшы грамадзкі дыялёг, які ня меў месца дагэтуль, наконт праекту закону аб СМІ.

Кіраўнікі місіяў краінаў Эўразьвязу і краінаў-кандыдатаў на далучэньне да гэтай арганізацыі ў сваёй заяве таксама выказваюць расчараваньне з нагоды нежаданьня беларускага міністра інфармацыі Ўладзімера Русакевіча сустрэцца дзеля абмеркаваньня тэмы свабоды СМІ ў Беларусі — нягледзячы на тое, што просьба наконт гэтай сустрэчы, датаваная яшчэ чэрвенем, паўтаралася з розных нагодаў.

Варта дадаць, што ў чэрвені міністрам інфармацыі быў яшчэ Міхаіл Падгайны, які таксама не хацеў сустракацца з эўрапейскімі дыпляматамі. А цяперашні міністар Уладзімер Русакевіч цяпер знаходзіцца ў Маскве, дзе ўзяў удзел у адкрыцьці міжнароднай выставы "Прэса-2004".

*Юры Сьвірко*






# ЁН СУМНЯЕЦЦА

**Пра сумнеў існаваньня беларускай літаратуры заявіў 17 сьнежня А. Лукашэнка на сустрэчы з творчаю інтэлігенцыяй.**

Тэме беларускай літаратуры было прысьвечана блізу гадзіны. Пачалася размова з праблемы Дому літаратара і пісьменьніцкага Дому творчасьці "Іслач". Рэч у тым, што за колькі тыдняў да плянаванае сустрэчы ў сакратарыят Саюзу пісьменьнікаў прыйшоў супрацоўнік адміністрацыі прэзыдэнта – распытаць пра тое, якія просьбы ды пажаданьні маюць літаратары да кіраўніка краіны. Пісьменьнікі найперш нагадалі пра забраны ўладаю шэсьць гадоў таму Дом літаратара. Аляксандр Лукашэнка падчас учорашняй сустрэчы адрэагаваў на просьбу пытаньнем: "А ці ёсьць яна наагул, беларуская літаратура?"

Вядомая паэтка, галоўная рэдактарка часопісу "Маладосьць" Раіса Баравікова выступіла на сустрэчы ў абарону беларускае літаратуры.

-Я лічу, што была такая вельмі канструктыўная сустрэча. Усё, што я хацела сказаць у абарону літаратуры, усё сказала так, як я лічу і гэта бачу. І выключна ўсе са мною пагадзіліся. І з той высновы, з таго, чым закончылася сустрэча, я мяркую, што і наш прэзыдэнт са мною пагадзіўся.

У нігілізме грамадзтва, улучна з прэзыдэнцкім, у дачыненьні да сучаснае беларускае літаратуры вінаватыя складальнікі школьных праграмаў, згодна зь якімі моладзь вывучае творы, напісаныя 50-80 гадоў таму і не цікавыя сучаснаму чалавеку.

Па словах жа некаторых прысутных на сустрэчы з прэзыдэнтам, сытуацыя зь беларускаю літаратураю і моваю ў краіне і надалей застанецца нязьменнай, таму што прэзыдэнт заклікаў іх гаварыць "нашым савецкім языком".

На просьбу ж вярнуць беларускім творцам Дом літаратара ён адказаў, што маўляў, вернем, а там Гілевіч, Бураўкін, Вярцінскі ды іншыя зноў будуць антыдзяржаўныя справы ладзіць. Таму вяртаць пісьменьнікам іхную маёмасьць улада не зьбіраецца.

*Валянціна Аксак*

> *The people has delegated great rights to us, but our responsibility is also immense.*
> *A. Lukashenko*